



Як сёння збіраецца вешчы Алег
Адпомсціць варожым хазарам;
Іх сёлы і нівы за буйны набег
Аддаў ён мячам і пажарам;
З дружынай сваёй, у царградскай брані,
Князь едзе па полі на верным кані.

З дрымучага лесу насустрач яму
Ідзе чараўнік пасівелы,
Паслушны ва ўсім Перуну аднаму,
Вяшчун і натхнёны і смелы,
Што ў ціхай малітве правёў свае дні.
І князь пад'язджае туды на кані.

«Скажы мне, вяшчун, улюбёнец багоў,
Што збыцца павінна са мною?
Ці хутка на радасць маіх варагоў
Магільнай засыплюць зямлёю?
Не бойся, ўсю праўду ты мне гавары,
Ў падзяку любога каня забяры».

«Валхвы не баяцца магутных князёў,
І ім падарункі не трэба;
Ты праўду спазнаеш з іх велічных слоў,
Што дружацца з воляю неба.
Наступныя дні захаваны ў імгле,
Ды бачу твой лёс я на светлым чале.

Запомні ж сягоння ты слова маё:
Уся твая слава — ў паходах;
Навечна імя блаславёна тваё;
Твой шчыт на царградскіх варотах;
Праз сушу і хвалі яго ты пранёс;
Зайздросны ўсім ворагам дзіўны твой лёс.

Ні сіняга мора падманлівы вал
У хвілю ліхой непагоды,
Прашча, і страла, і падступны кінжал
Не ўчыняць магутнаму шкоды...
Не зведаеш ран ты пад грознай бранёй;
Нябачны ахоўнік заўсёды з табой.



Твой конь не баіцца паходаў цяжкіх;
Паслушны заўжды тваёй волі,
То смірна стаіць ён між стрэлаў густых,
То хутка імчытся па полі.
Не страшны ні холад, ні бой для яго,
Ды прымеш ты смерць ад каня ад свайго».

Алег усміхнуўся — аднак жа чало
Укрылі пахмурныя цені.
Рукой апіраецца ён на сядло
І злазіць з каня ў задумленні;
І сябра свайго развітальнай рукой
Ён гладзіць і лашчыць па шыі крутой.

«Бывай, мой таварыш, мой верны слуга,
Прыйшоў час расстацца з табою:
Цяпер адпачні! больш не ступіць нага
У стрэмя тваё залатое.
Гуляй жа, ды помні мяне ты штодня.
Сябры-юнакі, забярыце каня!

Акрыйце папонай, мяккім дыванам;
На луг мой найлепшы вадзіце;
Купайце, карміце адборным аўсом;
Вадою крынічнай паіце».
І тут жа с канём юнакі адышлі,
А князю другога каня падвялі.

Пры келіхаў звоне, балюе Алег
З дружынай сваёю адданай.
Бялеюць іх кучары, быццам бы снег
Над слаўнай вяршыняй курганай ...
Яны памінаюць часы даўніны
І бітвы, дзе біліся разам яны ...



«А дзе мой таварыш? — прамовіў Алег —
Скажыце, дзе конь мой імклівы?
Ці гэтакі ж лёгкі ягоны ўсё бег?
Ці гэтакі ж конь мой гуллівы?»
І чуе адказ: на ўзгорку крутым
Даўно ўжо сон вечны лунае над ім.

Магутны Алег галавою панік
І думае: «Што ж варажбою?
Ты з розуму выжыў, стары чараўнік!
Не знацца б з тваёй мне хлуснёю!
Мне конь бы служыў і да гэтага дня».
І хоча ўбачыць ён косці каня.

І едзе Алег наймагутны з двара,
З ім Ігар і блізкія госці,
І бачыць: на ўзгорку крутым, ля Дняпра,
Ляжаць пабялелыя косці;
Іх мыюць дажджы, засыпае пясок,
Хвалюе над імі траву вецярок.

Князь ціха на чэрап каня наступіў
І кажа: «Спі, дружа мой мілы!
Цябе твой стары гаспадар перажыў, —
Хоць блізка і мне да магілы ...
Ды толькі не ты ў яе ляжаш са мной
І прах мой напоіш гарачай крывёй!

Дык вось дзе хавалася гібель мая!
Жыццю майму косць пагражала!»
Між тым з галавы нежывое змяя
З сіпеннем глухім выпаўзала;
Яна абвілася ля князевых ног,
І князю ніхто памагчы ўжо не мог.



На слёзных памінках Алега шыпяць
І пеняцца кубкі цяжкія;
Князь Ігар і Вольга на ўзгорку сядзяць;
Балююць сябры баявыя;
Яны памінаюць часы даўніны
І бітвы, дзе біліся разам яны.



10 к.



Для младшего школьного возраста

*Александр Сергеевич Пушкин*

**ПЕСНЬ
О ВЕЩЕМ ОЛЕГЕ**

Художник *В. Лосин*

ИБ № 382

Редактор *Л. Кузнецова.* Художественный редактор *Д. Пчёлкина*
Технический редактор *М. Матюшина.* Корректор *С. Бланкштейн*

Сдано в производство 20/VI-77 г. Подписано в печать 20/II-78 г. 60×90/8. Офс. № 1. Усл. печ. л. 1,5. Уч.-изд. л. 1,18. Тираж 3 000 000. Изд. № 4244. Заказ № 835. Цена 10 коп. Издательство «Малыш». Москва, К-55, Бутырский вал, 68. Калининский ордена Трудового Красного Знамени полиграфкомбинат детской литературы им. 50-летия СССР Росглавполиграфпрома Госкомиздата Совета Министров РСФСР. Калинин, проспект 50-летия Октября, 46.

П $\frac{70802-034}{М102(03)-78}$ 33—78



by Urus Hyḃy
Пераклад: Уладзімір Шахавец